# Сэнатар Васіль Рагуля ня жыве

16 чырвеня 1955 г. пасьля цяжкой хваробы памёр у Новым Ёрку ведамы беларускі настаўнік, пасол і сэнатар Васіль Рагуля.

Святой памяці Васіль Рагуля нарадзіўся 16 ліпеня 1879 г. у вёсцы Ачукевічы Любчанскае воласьці Наваградзкага павету ў сялянскай сям'і. Па заканчэньні пачатнай школы ў сваёй вёсцы ён вучыўся й закончыў настаўніцкую сэмінарыю ў Маладэчне, а пазьней паступіў у Настаўніцкі Інстытут у Вільні, які закончыў у 1906 г. Ад 1898 г. да першае сьветнае вайны працаваў некалькі год у пачатнай школе, а потым — у вышэйшай 4-кл. пачатнай школе.

Будучы настаўнікам, ён быў у цеснай сувязі з сваімі аднасяльчанамі і займаўся палітычнай і культурна-грамадзкай працай і, як надзвычай здольны й энэргічны, належыў да ўплывовага актыву ў Любчанскай воласьці.

У 1914 г. В. Рагуля быў змабілізаваны ў расейскую армію, дзе, як вайсковы чыноўнік, прабыў да 1918 г. Пасьля вайны ён прыехаў зь сямьёю ў Ачукевічы й пачаў наладжваць разбураную вайною гаспадарку, каб пераҗыць галодны пасьляваенны час. Неўзабаве прыйшлі бальшавікі, якія змабілізавалі яго ў бальшавіцкую армію. Хуткае замірэньне бальшавікоў з Палякамі спрыяла й хуткаму яго павароту ў Ачукевічы, але тут яго спаткала страшнае гора — у яго адсутнасьці трагічна памерла жонка й пакінула двое малых сіротаў. Пачалося цяжкое жыцьцё на гаспадарцы, без гаспадыні ў хаце й ніякіх матарыяльных сяродкаў, з малымі дзяцьмі...

Надыйшоў час выбараў у першы польскі парлямант. У восені 1922 г. адбылася ў мястэчку Негневічах канфэрэнцыя прадстаўнікоў 4-х воласьцяў: Негневіцкай, Шчарсоўскай, Любчанскай і Гарадзішчанскай. На гэтую канфэрэнцыю быў запрошаны й С. П. В. Рагуля, якога аднагалосна выбралі дэлегатам на канфэрэнцыю ў Баранавічы, а таксама кандыдатам у сойм ад Наваградзкае акругі. Жахлівае матар'яльнае становішча было паважнаю прычынаю, што змушала яго адмовіцца ад гэтых выбараў, але настойлівыя просьбы ўдзельнікаў канфэрэнцыі й пачуцьцё грамадзкага абавязку змусілі яго пагадзіцца з выстаўленьнем ягонай кандыдатуры. Трэба зазначыць, што Негневіцкая канфэрэнцыя была дэцыдуючым мамэнтам у зьмене палітычнага пагляду й далейшай працы В. Рагулі. Ад гэтага часу ён выплыў на арэну беларускага цэнтру ў Вільні й пачаў браць актыўны ўдзел у барацьбе за палепшаньне дабрабыту беларускага селяніна й незалежнасьць Беларусі. Зь першых дзён перадвыбарчае агітацыі ён абходзіць у лапцях свой Наваградзкі раён і, у выніку гэтае агітацыі, здабывае абсалютнае прызнаньне й пашану беларускага насельніцтва й перавагу над кандыдатамі ў сойм другіх партыяў. Ня гледзячы на тое, што Цэнтральны Беларускі Камітэт у Вільні выставіў яго кандыдатуру на 4-ае месца па Наваградзкім сьпіску, ён выбіраецца паслом у сойм і



Наваградчына заняла першае месца па колькасьці выбраных беларускіх паслоў. Наваградак зь беларускаю гімназіяю становіцца пасьля Вільні другім палітычным і культурным цэнтрам беларускім у Заходняй Беларусі. Сягоньня ўжо нябожчыкі Сьвятой Памяці Басіль Рагуля, адвакат Павал Сьвірыд і апошні дырэктар Беларускае Гімназіі ў Наваградку Янка Цеханоўскі былі неадлучнымі чаловымі дзеячамі ў палітычнай і культурнай працы Наваградчыны. Гэта сапраўды была гвардыя чыну, ахвярнасьці, сумленьня й служэньня на карысьць беларускай справы. С. П. В. Рагуля, як пасол і сябра Беларускага Пасольскага Клюбу ў польскім сойме й сэнаце, браў чынны ўдзел у вабароне беларускіх справаў у сойме, езьдзіў у 1927 г. з адпаведным мэмарыялам да Лігі Нацыяў у Жэнэве й, як лідар партыі Беларускага Сялянскага Саюзу, выдаваў газэту гэтае партыі «Сялянскую Ніву».

У 1928 г. у часе другіх выбараў у польскі парлямант В. Рагуля быў выбраны ў сэнат. Польская пракуратура абвінавачіла ўжо сэнатара В. Рагулю за прадвыбарчую агітацыю й засудзіла яго на 2 гады цяжкае турмы, якую ён адседзеў пасьля сэнатарскай кадэнцыі.

Пэрыяд пасольскае й сэнатарскае кадэнцыі С. П. В. Рагулі адзначаецца надзвычайнай яго актыўнасьцю й ахвярнасьцю зь ягонага боку на карысьць беларускае справы. Ня было ніякае арганізацыі ў Заходняй Беларусі таго часу, якой-бы не дапамог В. Рагуля матар'яльна й маральна. Асабліва адчула такую падтрымку беларуская гімназія ў Наваградку, што была ў той час безь дзяржаўнай дапамогі. Гэтая яго ахвярнасьць адмоўна адбілася на матарыяльным стане яго сям'і, бо пасьля сэнатарскай кадэнцыі й 2-х гадоў турмы, ён вярнуўся ў Ачукевічы бяз жадных грашовых ашчаднасьцяў і змушаны быў прадаць кусок свае зямлі, каб даць вышэйшую асьвету сваім дзецям па заканчэньні імі Беларускае Гімназіі ў Наваградку.

У 1939 г. прыйшлі бальшавікі й В. Рагуля разам зь іншымі быў арыштаваны й вывезены, але вайна Немцаў з бальшавікамі дае яму магчымасьць уцячы і зноў вярнуцца да свае хаты ў Ачукевічы.

У часе нямецкае акупацыі Беларускі Нацыянальны Камітэт у Наваградку вызначыў В. Рагулю на становішча кіраўніка раёну ў Дзятлаве, дзе ён таксама здабыў пашану й любоў з боку беларускага грамадзтва.

Адгэтуль ён перад самым адступленьнем нямецкае арміі выехаў у Нямеччыну, пазьней у Бэльгію, а нарэшце у Новы Ёрк, дзе суджана было яму на рукох свайго сына, нявесткі й унукаў аддаць на векі сваю несьмяротную душу Богу.

Няхай будзе Табе, дарагі настаўнік і сябра, няўтомны й бязьмерна ахвярны змагар за волю беларускага народу, лёгкай Амэрыканская зямелька. За свабоду Ты ўсё жыцьцё вёў змаганьне, што зьяўляецца прыкладам для нашага маладога пакаленьня ў канчальнай барацьбе за незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны.

Вечная памяць Табе!

Твой малодшы сябра А. Орса.

# Беларусы Нью Ерку разьвіталіся із сьв. пам. В. Рагулям

Дня 16 чэрвеня сёлета адыйшоў ад нас назаўсёды сьв. памяці сэнатар Васіль Рагуля. Вестка аб ягонай сьмерці маланкаю разьбеглася сярод Беларусаў Нью Ёрку і ўсяе Амэрыкі і ўзварухнула сэрца кажнага зь іх, бо ўсе яго ведалі, як нязломнага змагара за беларускую справу й стойкага абароньніка інтарэсаў беларускага сялянтва ў Заходняй Беларусі. Ня толькі Беларусы, але й чужынцы яго ведалі й шанавалі, як выдатнага нацыянальнага дзеяча. Вестку аб ягонай сьмерці зьмясьціла й найбольшая амэрыканская газэта «Нью Ёрк Таймс» за 19 чэрвеня сёлета.

Пахароны адбыліся ў суботу 18 чэрвеня. Сьв. памяці Васіль Рагуля быў пахаваны на Івэргрын могілках у Нью Ёрку. На вечны супакой праводзілі Нябожчыка Ягонае Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦ Васіль, які ў асысьце а. Ф. Данілюка адслужыў паніхіду й малебен па памерлым. Апрача сям'і сьв. пам. В. Рагулі і др. Барыса Рагулі, які прыляцеў з Канады, Нябожчыка праводзілі прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў Нью Ёрку і бліжэйшых ваколіцаў.

Над магілай Нябожчыка прамаўляў старшыня сэктару Рады БНР у ЗША сп. К. Мерляк, які падчыркнуў нацыянальныя заслугі памерлага й выразіў словы спагады для асірацелай сям'і Рагуляў ад імя Рады БНР і яе Прэзыдэнта інж. М. Абрамчыка. Старшыня галоўнай управы БАЗА сп. М. Тулейка адзначыў заслугі сэнатара. Напасьледак др. Барыс Рагуля ў кароткіх словах разьвітаўся із сваім дзядзькам. Плаўна расплыліся гукі на ньюёрскім магільніку «Сьпі пад курганам гэрояў», пасьля чаго ўсе пакінулі сьвежую магілу, пакрытую вянкамі красак ад беларускіх арганізацыяў і прыяцеляў памерлага.

На супольнай жалобнай вячэры прамаўлялі др. А. Орса, сп. А. Стагановіч і др. М. Шчорс.

К. Мароз

Куток мовы

# Аб некаторых словах і хормах нашае мовы

(Працяг, гл. № 26)

### Націск

У прыйменьніку «дзіўны» ў значэньню рас. «странный» націск на канчатку: дзіўнога, дзіўному і г. д.

У **наступны** націск на канчатку. Відаць гэта таксама з націску на канчатку у **пераступны** (год).

У **ночны, морскі** націск на «ноч—», «мор—». Гэта сьцьвердзілі ўсё чыста дасьледаваньнікі.

### Колькі хормаў

«Бальшыню нашых вазёраў пакінуў нам ледавік». Прыстаўное «в» бывае заўсёды на пачатку складу перад «о» (возера, вольха, сінявокі), таксама заўсёды бывае перад націсьненым «у» на пачатку складу — (вуха, навука). Калі «у» ненацісьненае стаіць на пачатку складу, дык не заўсёды перад ім бывае прыстаўное **в** (вучыць, вучыцель, але побач із «навучыць» ёсьць «наўчыць», «наўчоны». Перад **а** на пачатку складу бывае прыстаўное **в** толькі па прыйменьні **у, ў** (акно, на акне, агонь, на агню, але: у вакне, у вагню). Гэта ёсьць добра выкладзена ў маёй граматыцы на бач. 40-42. Але хто ў нас граматыку чытае? А каб чыталі, дык ня трэ' было-б займаць часу й месца гэтым выясьненьнем. Дык мае быць: Бальшыню нашы **азёраў** пакінуў нам ледавік.

«Самы запраўдны» — русыцызм, паблр. найвышшая ступень прыметнікаў ня творыцца пры помачы «самы», але пры помачы часткі «най». Дык мае быць: найзапраўднейшы. Найвышшая ступень прыметнікаў і прыслоўяў творыцца таксама пры помачы прыслоўяў «вельмі, дужа, надта»: хораша, харашэй, найхарашэй; харошы, харошшы, найхарошшы; або найвышшая ступень: вельмі (дужа, надта) хораша, харошы.

«Троіцкі» — хорма расейская, паблр. **Траецкі.** Гэта тая самая асаблівасьць, што маем у «яечня, яец, прыемны, узаемны». У рас. мове ў усіх такіх прыпадках ёсьць «і»: яичница, яиц, гостеприимный, взаимный».

Ёсьць дзеяслоў «тарнавацца» (нясконнага трываньня) і «прытарнавацца», але няма «датарноўвацца».

**Беспасярэдні,** але не «непасрэдны; **дзеяць,** але ня «дзейнічаць».

Той спакмень (прадмет), што не вялікі й не малы, але ўвелькі паміж вялікім і малым, завецца **сярэдні.** Таксама тое, што праходзе пасярэдзіне чагось, будзе сярэднім. Прыкл., калі на лісьце паперы правядзём колькі рысаў і адна зь іх будзе праходзіць пасярэдзіне ліста, тая будзе сярэдняя. Калі да «сярэдні» дадамо прыймя «па», дык мусіць быць **пасярэдні.** Калі, прыкладам, Пётра кажа што Адолю, а гэты перадаець пачутае Палікарпу, дык пасярэднім, пасярэднікам паміж Пётрам і Палікарпам ёсьць Адоль. Пётра мае пасярэдняе дачыненьне да Палікарпа. Калі-ж Пётра прыходзе сам да Палікарпа, дык ён абходзіцца без пасярэдніка, гутара з Палікарпам **беспасярэдне,** у іх дачыненьне **беспасярэдняе.** Але «непасрэдны» ніяк нельга вывесьці ад «сярэдні». «Непасрэдны» зроблена моўнымі анальфабэтамі з рас. «непосредственный» і належа да жахлівага савецкага расейска-беларускага жаргону.

Блр. **дзеяць** адказуе рас. «действовать» пол. «чыніць» і «дзялаць». Прывяду прыклады із слоўнікаў Насовічавага, Гарэцкага, Шатэрнікавага й Касьпяровічавага: што яны там дзеюць? Ліха дзее ён **Дзеяцца, зьдзеяцца** — происходить, произойти. Прыводжу прыклады з тых-жа слоўнікаў: Глянь, што там дзе-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

**НА ФОНД БЕЛАРУСКАЕ КНІГІ**
**(Працяг)**

**Падпісны ліст № 3, зьбіральнік сп. М. Сільвановіч:** І. Мікола Сільвановіч — 3 канадыйскія даляры, 2. Янка Шымчык — 2, 3. В. Есенавец — 2, 4. Мікола Міхновіч — 1, 5. Іван Бурдзь — 1, 6. М. Радчанка — 1, 7. Міхась Радчанка — 1, 8. Ул. Гуцько — 1, 9. А. Шымчык — 1. **Разам 12 даляраў.**

**Усім, што далі складку на Фонд Беларускае Кнігі, як і сп. Зьбіральніку складак выражаецца на гэтым месцы шчырая падзяка.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**



---

наўвеце, што да мамэнту назначэньня кіраўніком НКВД Яжоў быў сакратаром ЦК ВКП(б) ў справе кадраў: скрозь на кіраўнічых становішчах перабывалі ягоныя стаўленікі. Яны ня любілі Бэрыі. А яшчэ менш маглі любіць яго якімсьці чынам уцалелыя стаўленікі Яжова ў самым НКВД.

Вось чаму нязвычайна цікава прывесьці наступныя словы Мяркулава (цяпер гэта ня можа яму пашкодзіць): «...Гэтага трэба было баяцца з самага пачатку, паколькі ня ўсе пакрыўджаныя ў 1939-40 гадох чэкістыя былі зьнішчаныя, паколькі часьць зь іх асталася ў вабноўленым апараце, паколькі шмат зь іх падчас вайны высунулася і ўзноў апынулася на важных становішчах, паколькі ненавісьць чэкістага зьнікае толькі зь яго сьмерцю».

**33. «Мой зор і пагляд — табе, Лаўрэнці!»**

Першы раз з Бэрыяй вока-на-вока я сустрэўся пару тыдняў перад назначэньнем яго кіраўніком НКВД. Нас было каля 12 асоб. Мы былі зьдзіўленыя й зьбянтэжаныя ягоным тонам. Ужо тады ён гаварыў аб Яжову, Вышынскім і іншых надзвычайна разьвязьліва. Яжова, афіцыйна яшчэ не адсунутага, ён называў ня інакш, як «крывавым Міколаю», барбарам, людаедам, крывапіўцам, тэрарыстым, выскачкай, правакатарам і пры гэтым абяцаў выпаліць распаленым зялезам яжоўшчыну.

І трэба заявіць з належнаю яснасьцю, што ім было зроблена шмат. Зь ягонай ініцыятывы і дамаганьня трохі пазьней была выдадзена нідзе не апублікаваная палітычная амнэстыя, у сілу якой сотні тысяч былі зволненыя, а для перагляду нязволненых былі назначаныя спэцыяльныя «тройкі». Мне асабіста ведамы выпадак скасаваньня сьмяротнага прыгавору над групай «буржуазных нацыяналістых» за некалькі гадзінаў да выкананьня гэтага прыгавору. Дакумэнтальна ведама, што гэта было зроблена самапраўным, ні зь кім няўзгодненым, тэлеграфічным загадам Бэрыі. Мабыць, такіх выпадкаў было шмат.

Больш таго, Бэрыя дамогся выданьня спэцыяльнай пастановы народных камісараў аб звароце зволненым сканфіскаванай маемасьці або аб выплаце ім адпаведнай аднаразовай грашовай дапамогі, аб рэгабілітацыі тых, на якіх былі беспадстаўна зробленыя даносы, аб павароце іх на папярэднія становішчы, аб вынясеньні афіцыйных прабачэньняў найбольш выдатным ахвярам тэрору і г. д.

Выконваліся ці ня выконваліся гэтыя пастановы скрозь і заўсёды, — я ня ведаю, і ня гэта ёсьць сутнасьцю гэтага майго выкладу. Я хачу падчыркнуць толькі адно: у рэкордна кароткі час рэпутацыя Бэрыі дасягнула арлінага ўзьлёту. На ягоны адрыс сыпаліся ўдзячныя тэлеграмы і лісты. Пантофель-Нечэцкая навет запяяла: «Мой зор і пагляд — табе, Лаўрэнці!»

**34. Молатаў зьненавідзеў Бэрыю за гэтую папулярнасьць**

Магчыма, што ўсё гэта было чарговай памылкай народаў СССР, чарговай праявай палітыкі перніка Крэмля. Магчыма, што Бэрыя толькі выконваў волю Сталіна. Магчыма, што гэтае самае рабіў-бы на ягоным месцы кажны іншы. Я асабіста ня сумляваюся, што новы кіраўнік НКВД ніколі ня быў асаблівым гуманістым, — аб гэтым, між іншым, досыць добра сьветчыла ягоная папярэдняя дзейнасьць на Каўказе, і кіраваўся ён зусім не пачуцьцямі спачуваньня да ахвяраў яжоўшчыны. Звальняць трэба было ня сотні тысяч, а мільёны. Апрача гэтага, Бэрыя — ня хлопчык, каб не разумець розьніцы паміж іголкамі і карэньнямі. Напасьледак, ён ня мог забывацца, што рэжым, сябрам якога ён быў сам, ўжо ўсьпеў зьнішчыць мільёны, што ніякая сіла больш не дапаможа гэтым ахвярам.

Усё магчыма. Але факт астаецца фактам: Бэрыя апынуўся ў такой ролі і ў такі час, што ягоная папулярнасьць расла таксама шыбка, як шыбка падала папулярнасьць і наагул палітычная рэпутацыя Молатава, старшыні ўраду. У 1944 годзе Гардынашвілі гаварыў мне, што на гэта зьвярнуў увагу сам Бэрыя, які ў форме жарту зацеміў: **Молатаў зьненавідзеў мяне за гэтую папулярнасьць.**

У 1946 г., гаворачы аб справах у апараце ЦК ВКП(б), адзін супрацоўнік апошняга сказаў мне, што вайну мы выгралі, але прайгралі адзінства палітбюра, што Бэрыя ненавідзіць Жданава й Молатава на столькі-ж няпрымірна, на сколькі яны ставіліся да яго з прыдзірствам, што адзіным балянсірам зьяўляецца пакуль што **аўтарытэт** хворага Сталіна, што пасьля Сталіна раўнавага зьменіцца шыбкімі падзеямі, што Бэрыя згрубіяніўся і часта вытыкае Молатаву ягоныя капітуляцыйныя настроі ў дні маскоўскай панікі, і што Молатаў пускаў адно астрыё за другім супраць Бэрыі, бодай што адкрыта абвінавачваў яго ў нацыяналістычных настроях.

Тады мы ня прыдавалі асаблівага значаньня гэтым размовам. Усё гэта паказваецца новым і цікавым за мяжой, але не для нас: бо-ж на вярхох КПСС ніколі ня было даўжэйшага адзінства і мы гэта пакажам далей. Але цяпер гэтыя дробязі праліваюць сьвятло на вялікія справы.

**35. Сутнасьць канфлікту Молатава з Бэрыям**

Бэрыя, ап'янеўшы ад рэкорднага ўзьлёту папулярнасьці, і ўзапраўды ўяўляў сябе міністрам-вызвольнікам, задумаў выкарыстаць сытуацыю для сваіх утылітарна-палітычных мэтаў, забыўшыся, што ўцалелыя яжоўцы рана ці позна будуць зводзіць зь ім парахункі, меў неасьцярожнасьць падняць руку і на самога Молатава. Ягоныя меркаваньні былі лёгічнымі, але для савецкіх умоваў надзвычайна правінцыйнымі: калі Яжова ўсе прызнаюць праступнікам, дык такім, або амаль такім, трэба прызнаць і Молатава, таму што ён быў беспасярэднім урадавым начальнікам, які падпісваў адпаведныя пастановы, які выдаваў юрыдычныя загады і распараджэньні. Сталін? Пасьля зьняважлівай думкі Бэрыі, ён ня быў **юрыдычнай** асобай, ён быў «толькі» генэральным сакратаром...

Але Сталін паказаўся досыць непадатлівым. Ён узяў Молатава пад ахарону. З дакумэнтамі ў руках Бэрыя гаварыў: «Трэба Вячаслава Іванавіча ведаць», — Сталін маўчаў або адчэпліваўся жартамі; Бэрыя й Мяркулаў гаварылі, што такія й такія праступныя дырэктывы былі дадзеныя Яжову Молатавам, Сталін маўчаў або адкараскваўся жартамі.

Так прадаўжалася больш ці менш доўга. Толькі ў 1941 годзе, пад матывам неабходнасьці лепшага прыгатаваньня да ваеннай сытуацыі, Молатаў быў зволнены із становішча старшыні ўраду. З таго часу ён болей ніколі не падняўся да папярэдняе ўзроўні і ў гэтым не малую ролю адыйграў Бэрыя. З таго часу Молатаў і Бэрыя адзін аднаго ненавідзелі ўсей сваей душой, хаця, разумеецца, намагаліся весьці сябе карэктна, не давалі эмоцыям выходзіць навонкі, бо-ж ведалі, што пры неасьцярожнасьці могуць быць выкінутымі абодвы. Гэтым і аб'ясьняецца той факт, што пасьля сьмерці Сталіна, пасьля зьнікненьня таго, хто мірыў, іхны зудар прыняў вырашальныя формы, — пра гэта мова будзе ніжэй.

**36. Сутнасьць канфлікту між Бэрыям і Вышынскім**

Вось-жа яжоўшчына засуджана й разгромлена. Але яе арганізавалі й праводзілі Яжоў, Вышынскі і Маленкаў: першы — як кіраўнік НКВД, другі — як пракурор СССР, трэйці — як кіраўнік аддзелу кадраў ЦК КПСС. Яны тварылі гэтак званае «малое палітбюро».

На Вышынскага падала асабліва цяжкая адказнасьць. Ніколі й ніякі ўрад без папярэдніх юрыдычных кансультацыяў ня прыймаў ніякіх пастановаў. На Захадзе часта гавораць і пішуць, што ў СССР расстрэльваюць бязь ніякага суду, — гэта, звычайна, дробязі, пераўвялічваньні. Праўда палягае на тым, што дзеюць **савецкія** законы, і на тым, што паводля савецкіх законаў абвінавачаны не абавязкава, не ўва ўсіх выпадках інфармуецца аб характары абвінавачваньняў, навет аб прысудзе. Наагул-жа, тэарэтычна кажучы, кажны расстрэл мае той ці іншы юрыдычны прысуд, які вынесены судом або «тройкаю», або ў чарзе аднаасабовай пастановы тых або іншых чэкістых.

Выходзіць, калі сотні тысяч расстрэлаў вызнаныя былі памылковымі, калі сотні тысяч былі зволненыя, калі справы іншых сотняў тысяч былі перададзеныя на перагляд, калі яжоўшчына была абвешчаная злачынствам, дык гэта абазначае, што дзейнасьць галоўнага юрыстага СССР, пракурора Саюзу ССР, была прызнаная нездавальняючай, памылковай, злачыннай, антыканстытуцыйнай. Гэта — ня прыпадковае думаньне: яно было высказанае ясна, выразна й адназначна на пленуме самым Бэрыям. Больш таго, ён дамагаўся Вышынскага аддаць пад суд. Беспасярэдняю прычынаю гэтых дамаганьняў быццам было выяўленьне дакумэнтаў аб неабгрунтаванасьці некаторых абвінавачаньняў супраць групы Тугачэўскага.

Вынік добра ведамы: Сталін не дазволіў расправіцца з чалавекам, які для яго так шмат зрабіў. Але кампрамітуючых матарыялаў таксама было вельмі шмат, таму часткава прыйшлося ўступіць: Вышынскі быў «зволнены» із становішча пракурора і назначаны на адносна другарадную пасаду радавога заступніка старшыні савету камісараў. Гэта было больш для адводу вачэй чужынцаў. Але адно незапярэчнае: з тых часоў Вышынскі быў ізаляваны ад якога-б там ня было ўплыву на нутраную палітыку. Яму даў прытулак ягоны сталы прыяцель Молатаў у галіне вонкавай палітыкі.

З тых часоў дачыненьні між Бэрыям і Вышынскім, вонкава, асталіся карэктнымі, вызначаліся ненавісьцю, гатоўнасьцю падставіць адзін другому нагу пры першай лепшай нагодзе.

Вось-жа калі-б пасьля сьмерці Сталіна Бэрыя не спазьніўся, прыпусьцім, на адзін месяц, дык як «гады» і «агенты» светнага капіталу былі-б расстрэленыя Молатаў і Вышынскі, а ня Бэрыя і Мяркулаў.

(Далей будзе)

